


# Краязнаўчая газета

№ 11(28)
Сакавік 2004 года

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:





Вясна прыйшла на Нямігу

*Насустрач з'езду краязнаўцаў*

# Маленькі інстытут горацкага краю

***Горацкае краязнаўчае таварыства – адно са старэйшых у Беларусі. Яно было ўтворана 7 снежня 1924 года. Тады ў самай вялікай зале акадэміі – аўдыторыі імя М. Фрунзе – сабраліся на свой устаноўчы сход раённых краязнаўцы. Было ўсяго 15 чалавек. Але ўжо праз год у таварыстве налічвалася 363 сябры: 15 прафесараў, 18 выкладчыкаў, 220 студэнтаў сельскагаспадарчай акадэміі, 110 настаўнікаў з горацкіх школ.***

16 красавіка 1925 года з раённага таварыства вылучылася новая арганізацыя пад назвай "Навуковае таварыства па вывучэнні Беларусі", якая як навукова-даследчая ўстанова ўвайшла ў склад Інбелкульта. Але яе шматлікія сябры працягвалі працаваць і ў раённай краязнаўчай арганізацыі.

Раённыя краязнаўцы пад кіраўніцтвам прафесара П. Салаўёва за 1925–1927 гады правялі 17 сходаў таварыства, дзе заслухалі 39 навуковых дакладаў, прысвечаных вывучэнню гісторыі, этнаграфіі,геаграфіі, прыроды і эканомікі раёна. Свае матэрыялы яны друкавалі ў газетах "Звязда", "Савецкая Беларусь", часопісе "Наш край".

Цікавыя артыкулы друкаваліся ў "Працах Горацкага навуковага таварыства па вывучэнні Беларусі", якія выходзілі ў Горках. Так, у першым томе (1925 г.) былі змешчаны артыкулы А. Савельева "Вапна і матыльковыя расліны на глебах Горацкага раёна", С. Журыка "Быдла Горацкага раёна", С. Мельніка "Стары парк пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі".

Вывучэнню гісторыі, этнаграфіі, эканомікі і прыроды Горацкага раёна цалкам прысвечаны трэці том, які выйшаў у 1927 годзе. Тут былі змешчаны артыкулы Д. Васілеўскага "Кароткі нарыс гісторыі Горацкага раёна і Горак", "Народная асвета ў Горацкім раёне", М. Сраговіча "Яўрэйскае насельніцтва ў Горацкім раёне", М. Пеліхава "Аб становішчы сялян Горацкага раёна ў першай палове мінулага сталецця".

Матэрыялы аб глебах, геалагічнай будове, фауне і флоры, лясах Горацкага раёна надрукавалі ў гэтым томе Ф. Люнгэрзгаўзен, Г. Несцярчук, П. Салаўёў, У. Васількоў і іншыя. Сярод аўтараў былі як навуковыя супрацоўнікі, так і настаўнікі школ раёна, краязнаўцы.

Краязнаўчыя матэрыялы друкаваліся і ў пятымвосьмым тамах таварыства. Праца горацкіх раённых краязнаўцаў атрымала высокую адзнаку ў Мінску і Маскве. У прывітанні Цэнтральнага Бюро краязнаўства РСФСР, якое было падпісана акадэмікам М. Марам, адзначалася, што "ЦБК з вялікай цікавасцю сочыць за поспехамі працы Горацкага таварыства..."

Аднак хутка ў Беларусі краязнаўчая праца была згорнута.

Горацкае краязнаўчае таварыства таксама было ліквідавана.

Яно адрадзілася толькі праз 70 гадоў – у чэрвені 1994 года. Тады, у той жа аўдыторыі імя М. Фрунзе, сабраліся ўсе, хто займаўся краязнаўствам у раёне, і аднавілі таварыства. Цяпер у ім больш за 30 актыўных сяброў. Гэта рэктар сельскагаспадарчай акадэміі прафессар А. Цыганоў, рэктар Магілёўскага універсітэта харчавання прафесар В. Шаршуноў, прафесары М. Мікалаеў, Р. Тарануха, А. Конанаў, дацэнты К. Сучкоў, А. Каданчык, А. Герасімовіч, старшы выкладчык А. Пугач, настаўнікі гісторыі і геаграфіі раёна Р. Міронченкава, М. Скараходаў, навуковыя супрацоўнікі музеяў С. Скаромная, Т. Лосева, Т. Караеўская, В. Белавусава, бібліятэчныя ра-


*(Заканчэнне на стар. 2)*





*Ліст у рэдакцыю*

# Падтрымліваю і раю

З увагай прачытаў у "КГ" № 11 (верасень) 2003 г. прапанову Алеся Карлюкевіча па зборы мясцовай краязнаўчай літаратуры і стварэнні ў Беларускім універсітэце культуры грамадскай краязнаўчай бібліятэкі. Ідэя слушная. Такая бібліятэка стане цэнтрам збірання, захавання і распаўсюджання краязнаўства. Гэта будзе мазгавы цэнтр краязнаўства. Але, я думаю, што было б карысна такую літаратуру збіраць у школьных бібліятэках, раённых і абласных. Стварыць тут каталогі, картатэкі. Тым болей што ў раённых і абласных бібліятэках ёсць аддзелы краязнаўства і там працуюць падрыхтаваныя спецыялісты-бібліёграфы. І ў сельскіх бібліятэках не зашкодзяць такія зборы па краязнаўстве сваёй малой радзімы, Бацькаўшчыны, абудзяць тут, на месцы, цікавасць да пазнання сваіх каранёў, патрыятызм, павагу і любоў да роднага краю. Беларускі універсітэт культуры – цэнтр краязнаўства рэспублікі; гэта цудоўна, але ў межах вобласці такімі цэнтрамі абласнога краязнаўства павінны стаць абласныя бібліятэкі, а ў межах раёна – раённыя. Тут павінна быць сістэма. Тым болей што ў наш час нават у раённых бібліятэках, не гаворачы пра абласныя, ёсць камп'ютэры. Можна зрабіць і квартальны агляд літаратуры па краязнаўстве, надрукаваць краязнаўчыя работы. Я ведаю, што ў нашым раёне ў сельскай бібліятэцы в. Леніна збіраецца мясцовы краязнаўчы матэрыял бібліятэкарам Галінай Каваленка, а ў раённай бібліятэцы важкую работу па краязнаўстве праводзіць бібліёграф Валянціна Жукава.

Уявіце сабе, што мне патрэбна літаратура нашага мясцовага краязнаўства, і калі па яе дабірацца да Мінска за 400 км, то гэта не так і проста.

Школы, настаўнікі гісторыі пастаянна ў цэнтры ўвагі на метадычных пасяджэннях, ды і па праграме гісторыі Беларусі разглядаюць пытанні краязнаўства, праводзяцца краязнаўчыя школьныя раённыя чытанні, вядуцца факультатывы і курсы па краязнаўстве – гэта "Бацькаўшчына" ў 8 і 9 класах.

У праграме гісторыі Беларусі ў мінулым годзе было па 10 краязнаўчых урокаў, а цяпер 7 абавязковых. Нядрэнна было б, каб пры раённых газетах выходзіў хоць раз у квартал альманах тыпу "Бялыніцкага сшытка", які рыхтуе патрыёт-энтузіяст краязнаўства Міхась Карпечанка. Вось такія мае думкі. Я ў нашай раёнцы "Чырвоны сцяг" даў інфармацыю пра "КГ" і наконт будучай канферэнцыі ці з'езда краязнаўцаў у Мінску.

І практычнае пытанне: не падкажаце, дзе можна атрымаць архіўную даведку пра георгіеўскага поўнага кавалера, удзельніка руска-турэцкай вайны 1877–1878 гадоў, беларуса, нашага земляка Аўчыннікава Піліпа?

**Аляксандр МАРЗАЛЮК,**
**в. Леніна Краснапольскага раёна**





Карані братэрства

# Нежын ведае і помніць

**Францішак Багушэвіч у гісторыі нашай культуры вызначыўся не толькі як паэт дэмакратычнага накірунку, але і як мысліцель-філосаф, адзін з тых, хто ў XIX стагоддзі, "каб не ўмёрлі", фарміраваў беларускую нацыянальную ідэю, акрэсліваючы, што беларусы – адзін са старажытных славянскіх народаў са сваёй гісторыяй, мовай і культурай.**

Як вядома, Ф. Багушэвіч вучыўся ў Віленскай гімназіі, асвойваў фізіку-матэматыку ў Пецярбургскім універсітэце, адкуль яго выключылі за непрыйманне новых студэнцкіх правіл. Настаўнічаў, а ў 1863–1864 гадах палічыў патрэбным далучыцца да паўстанцаў і змагацца за сацыяльна-эканамічную, палітыка-культурную, нацыянальную волю беларускага народа. Прысланы з Пецярбурга начальнікам Паўночна-Заходняга краю, ужо раней падрыхтаваны на знішчэнне беларушчыны, М. Мураўёў загадаў жорстка распраўляцца не толькі з паўстанцамі, але і з тымі, хто ім спачуваў. Асцерагаючыся пакарання смерцю ці высылкі ў Сібір, Багушэвіч знаходзіць прытулак у Нежыне, дзе ў 1868 годзе заканчвае юрыдычны ліцэй, пасля працуе судовым следчым – зразумела, спачувае заняволеным і прыніжаным, а таксама пад псеўданімам стварае сваю, накірунку крытычнага рэалізму, беларускую паэзію, выдаючы яе зборнікам за межамі Беларусі.

У Нежыне шануюць памяць нашага славутага земляка, выпускніка іхняй навучальнай установы: на будынку сённяшняга Нежынскага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта ёсць прысвечаная яму мемарыяльная дошка, украінскімі даследчыкамі знойдзены і апублікаваны асобныя, датычаныя яго дакументы. А праз Багушэвіча ў нежынцаў свае цёплыя адносіны да ўсёй беларускай культуры.

Нядаўна выйшаў 18-ы выпуск зборніка пад назвай "Літаратура і культура Палесся: Асаблівасці развіцця гісторыі і культуры на Палессі і ў Левабярэжнай Украіне". Там, апроч іншых, змешчаны і два беларускамоўныя матэрыялы: "Некаторыя пытанні вывучэння гісторыі і культуры Беларушчыны і рэаліі існавання беларускасці ва ўмовах беларуска-ўкраінска-рускага этнакультурнага ўзаемадзеяння, ці так званы "маларасійскі" гісторыка-культурны аспект развіцця Беларушчыны" І. Карашчанкі і "Некаторыя асаблівасці арнаментыкі кніг кірылічнага друку, якія бытавалі на Беларусі" (на матэрыялах калекцыі БДМНАП) В. Малюшынай. У першым з іх – даследаванні прыкладаў з Чарнігаўскай і Сумскай абласцей Украіны, беларускай Гомельшчыны, расійскай Браншчыны, сібірскіх перасяленцаў, якія вызначаюцца як беларусы. У другім матэрыяле – абгрунтаванне на рэдкіх кнігах, што захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным музеі народнай архітэктуры і побыту пад Мінскам.

У ранейшых выпусках вышэйназванага зборніка Нежынскага педуніверсітэта таксама змяшчаліся публікацыі беларусазнаўчага характару аўтараў як з Беларусі, так і з Украіны.



*Касцёл XVIII ст. у Дароцічах на Палессі (здымак 1929 г.)*

# Брэнд – слова не толькі моднае

Яно стала модным літаральна ў апошнія часы, але, як і іншыя замежныя словы, ужываецца часта зусім без вялікай патрэбы і засмечвае беларускую і рускую мовы. Асабліва тады, калі можна пра штосьці важнае сказаць па-свойму проста і ясна.

Вось нядаўна пачуў: агракамбінат "Ждановічы" будзе ствараць свой брэнд. Не проста нават нам, філолагам, разабрацца, што гэта за рэч такая.

Зацікавіўся. Знаёмы журналіст, які напісаў пра гэта, тлумачыў, што іх, журналістаў, запрасіла да сябе кіраўніцтва вышэйназванай аграфірмы і папрасіла па магчымасці ідэалагічнай дапамогі пад дэвізам "Купляйце беларускае!" Гаспадарка ў выніку дбайнай працы неўзабаве можа парадаваць мінчан смачнай і карыснай агароднінаю: у бліжэйшы час – агуркамі, крыху пазней – памідорамі. Ды ёй замінка ў асобе дробных лавачнікаў, якія і завозяць розную прадукцыю, у тым ліку і названую, з розных краін, апераджаюць, ствараюць канкурэнцыю, і часамі ўжо нясвежыя замежныя дары выдаюць за ждановіцкія. Усё гэта, палітыка цэн найперш, не спрыяе гаспадарцы.

Дык вось, агракамбінат "Ждановічы" вырашыў дзеля сваёй паспяховай дзейнасці стварыць і ўмацаваць свой брэнд. Што да цэн, то на іх ужо ёсць уплыў кошту расійскага газу: калі раней гэты калектыў купляў тысячу кубоў гэтай сыравіны па 54 даляры, то з гэтага году трэба траціць ужо 60 даляраў. Адпаведна, рэнтабельнасць панізіцца. А каб не значна (з 26 працэнтаў хоць бы да 18), то трэба шукаць свае рэсурсы, эканомію. Гаспадарка мае намер яшчэ пабольшыць плошчы і падбор зеляніны – апроч агуркоў, памідораў, буракоў і капусты, вырошчваць моркву, цыбулю, перац, баклажаны, а пазней завесці і ліманарый, сад (гэта значыць тое, што ў нас у паркава-палацавых сядзібах рабілі яшчэ стагоддзі таму) і прадаваць гэта сталіцы не зусім дорага.

А брэнд?

Слова ў англійскай мове даўняе, вядомае, а ў нас раптоўна стала вельмі модным. Каб мець да яго адносіны, трэба найперш умець гаспадарыць як на асобным прадпрыемстве, так і ў межах усёй краіны, дык і будзе той брэнд! Як ён быў у нас у палацава-паркавых сядзібах, у лепшых сялянскіх гаспадарках стагоддзі таму. Як ён адбыўся не толькі ў ЗША, Германіі, Японіі, але і ў невялікіх па плошчы Галандыі, Фінляндыі, у краінах, якія называюць "маладымі азіяцкімі тыграмі".

А ўсё ж – брэнд? Ды проста: па-англійску гэта – асабісты знак, кляймо, фабрычная марка на тавары, зробленым памайстэрску і дзелавіта, тавары, які ніколі не абыдуць, – наадварот, будуць шукаць яго!

*Генадзь ДОЙЛІД*

З сакавіцкіх намераў

## Здаровы лад жыцця – мара чалавецтва

Пра гэта дбаюць ва ўсім свеце бадай з часоў грэхападзення Адама і Евы, са з'яўленнем іхніх наступнікаў, якія павялі сябе па-рознаму.

Што гэта такое – здаровы лад жыцця? Прынцыпы яго, мусіць, выкладзены ў 10 біблейскіх запаветах, але і з тых часоў яны многімі і многімі парушаліся. Як беднымі, так і багатымі – краінамі, сем'ямі, пэўнымі асобамі. Чалавек можа зламысніцаць, калі ён не мае працы, заробку, жылля, звычайнай радасці, мары і надзеі, зусім бясправны, але чалавек можа яшчэ больш грашыць, калі ён ва ўладзе ці ў іншым уладкаванні, усім забяспечаны. Сказана: жывяцца "не хлебам адзіным..." Цела і душа... Целу – жыллё і хлеб, а душы... нейкія ідэалагічныя сходы і павучанні, пошлыя фільмы, эстрадная трасуха і выццё? Не, мала гэтага, каб калі не выкараніць, то хоць бы зменшыць у грамадстве дрэнныя звычаі і норавы, крадзеж і забойствы, абыякавасць, якія прарастаюць на пэўнай глебе. Тут патрэбна іншае, большае, каб у аснове яго ляжала любоў, павага, паўнацэннасць і іншыя духоўныя каштоўнасці, што спрыялі б пераадольванню часовых (а не вечных) цяжкасцей.

Як стала вядома, кіраўніцтва Магілёўскай вобласці спецыяльна занялося гэтым пытаннем і пачало з таго, што распарадзілася стварыць каардынацыйную раду, каб яна аб'яднала намаганні працоўных калектываў, устаноў культуры, адукацыі, аховы здароўя, грамадскіх арганізацый па "фарміраванні ў вобласці здаровага ладу жыцця".

Задума, безумоўна, ухвальная. Толькі б той савет, як гэта цяпер робіцца амаль паўсюль, не пачаў капіраваць, аднаўляць былыя савецкія метады, мерапрыемствы, скажам, па "антыалкагольнай барацьбе", якая пры жыццёвай патрэбе часамі вялася бязглузда і мела сумныя вынікі. Згодны, не ўсё савецкае было толькі дрэннае, але ўсё ж трэба пазіраць наперад і з беларускай спецыфікаю.

Насустрач з'езду краязнаўцаў

# Маленькі інстытут Горацкага краю

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

Мы абавязкова павінны ўспомніць і такіх вядомых у раёне краязнаўцаў, якія, на жаль, ужо памерлі. Гэта Дз. Новікаў і І. Стэльмашонак.

Сябры нашага таварыства друкуюць свае артыкулы ў часопісах, у цэнтральных, абласных і раённых газетах, навуковых зборніках.

Раз на два гады ў Горках праходзіць краязнаўчая канферэнцыя, якая працуе па трох секцыях: гісторыя, геграфія і эканоміка раёна, гісторыя сельскагаспадарчай акадэміі, літаратуразнаўства. Бяруць удзел у працы краязнаўцы з Мінска, Магілёва ды іншых гарадоў. Па выніках канферэнцый выйшлі чатыры зборнікі "Бацькаўшчына", дзе надрукавана больш за 60 артыкулаў.



*Дз. Новікаў*

Сябры таварыства актыўна выдаюць кнігі і брашуры. Толькі ў апошнія гады выйшла больш за 30 прац па гісторыі і геграфіі Горак і раёна, гісторыі сельскагаспадарчай акадэміі. Яны выходзяць у серыях "Гісторыя працоўных калектываў Горацкага раёна", "Імі ганарыцца Горацкая зямля", "Вядомыя выхаванцы і выкладчыкі БДзСГА", "Гісторыя кафедраў БДзСГА".

Дзякуючы намаганням краязнаўцаў раёна ў 1996 годзе выйшла кніга "Памяць. Горацкі раён", якая стала настольнай для многіх жыхароў.

Вялікая праца вядзецца па патрыятычным выхаванні моладзі. Гэта – лекцыі і гутаркі, штогадовыя гістарычныя вікторыны, заданні якіх друкуюцца на старонках раённай газеты, конкурсы сярод вучняў і студэнтаў акадэміі на лепшы рэферат па гісторыі і этнаграфіі.

Не забываюць сябры таварыства даглядаць за помнікамі. Дзякуючы іх намаганням толькі ў апошнія гады на тэрыторыі Горак былі ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі ў гонар Я. Купалы, Я. Коласа і М. Гарэцкага, у карпусах акадэміі створаны мемарыяльныя кабінеты вучоных К. Шуіна, К. Сонцава, М. Шытова, П. Шумскага ды іншых.

Краязнаўчая праца вядзецца не толькі ў раённым цэнтры, але і ў вёсках. Пад кіраўніцтвам настаўніцы гісторыі Р. Міронычкавай створаны музей, які атрымаў званне народнага. Менавіта яна адшукала жаночы касцюм, які супрацоўнікі Інстытута этнаграфіі НАН Беларусі аднеслі да горацкага строю. Плённа вядзецца краязнаўчая праца ў вёсках Маслакі, Аўсянка і Леніна.

Асаблівай пахвалы заслугоўвае праца загадчыцы музея гісторыі акадэміі Т. Лосевай, якая стварыла студэнцкі краязнаўчы гурток. Яго ўдзельнікі праводзяць этнаграфічныя экспедыцыі, вандроўкі па гістарычных мясцінах Беларусі, даглядаюць за помнікамі і магіламі вучоных акадэміі.

Дзякуючы намаганням краязнаўцаў створаны спецкурс па гісторыі і геаграфіі Горацкага раёна, які вядзецца ва ўсіх школах раёна.

7 снежня 2004 года адбудзецца навуковая краязнаўчая канферэнцыя, прысвечаная 80-годдзю з дня ўтварэння Горацкага краязнаўчага таварыства. Карыстаючыся нагодаю, запрашаем краязнаўцаў дасылаць паведамленні і даклады, якія тычацца гісторыі і геаграфіі Горацкага раёна, гісторыі сельскагаспадарчай акадэміі. Яны будуць надрукаваны ў юбілейным зборніку.

*Уладзімір ЛІЎШЫЦ, старшыня Горацкага раённага краязнаўчага таварыства*

Дзякуй даўнім і новым сябрам нашай газеты! Мы радыя, што нас становіцца болей. Давайце ж пашыраць нашую сябрыну – падпісацца на газету можна з любога месяца. Не губляйцеся ў вялікім свеце сучаснай мітусні!

**Падпісныя індэксы і кошты:**
**індывідуальны – 63320 (3 300 рублёў на месяц), ведамасны – 633202 (3 409 рублёў на месяц).**

*"... і дзякуй скажа родны край"*

# "Тахтамышаў Двор" у Лідзе

Колькі людзей за дзень праходзіць, праязджае каля Крыжаўзвіжанскага каталіцкага касцёла па вуліцы Савецкай, што каля гасцініцы "Ліда"! Адны праходзяць, не звяртаючы ўвагі, вернікі завітваюць, каб памаліцца, іншыя звонку любуюцца архітэктурным выглядам пабудовы.

Крыжаўзвіжанскі касцёл быў пабудаваны ў 1765–1770 гадах па праекце вядомага ў Беларусі архітэктара Йогана Хрыстафора Глаўбіца. Заснаваны ж касцёл быў ў 1387 годзе, калі на шляху з Кракава ў Вільню пасля вянчання і каранацыі затрымаўся вялікі князь Літоўскі і кароль Польшчы Уладзіслаў Ягайла са сваёй маладой жонкай Ядвігай Анжуйскай. І пабудаваны быў на яго ахвяраванні. Але касцёл падчас аднаго са штурмаў замка згарэў. І праз некаторы час быў перанесены на другое месца – крыху далей ад замкавых сцен на поўнач ад былога.

Наўрад ці хто ведае або цікавіцца і задае сабе пытанне: што тут было стагоддзі таму? А месца гэтае ў Лідзе гістарычна вельмі знамянальнае. Тут у канцы XIV стагоддзя знаходзіўся так званы "Тахтамышаў Двор".




З 1396 па 1399 год, пасля таго як хан Тахтамыш прайграў міжусобную вайну з Тамерланам за ханскі трон Залатой Арды, збег адтуль у ВКЛ пад заступніцтва вялікага князя Літоўскага Вітаўта і "... мешкал в Литве зо всеми уланы и мурзами в Лиде..."

Тахтамыш – адзін з найбольш лютых ханаў Залатой Арды. Калі пасля паражэння татар на Куліковым полі яны вырашылі адпомсціць Маскоўскаму княству і ў 1382 годзе захапілі Маскву, горад амаль цалкам быў разбураны, а яго вуліцы ўсланы трупамі. У "Повести временных лет" летапісец запісаў: "И повелели они (князі Дзмітрый і Уладзімір. – А. К.) мёртвых хоронить, и давали за сорок мертвецов по полтине, а за восемьдесят – по рублю. И сосчитали, что всего дано было на погребение мёртвых триста рублей". Такім чынам, просты арыфметычны падлік дае нам агульную колькасць загінулых масквічоў – 24 тысячы чалавек!

Захоп Масквы Тахтамышу ўдалося ажыццявіць шляхам падману яго абаронцаў на чале з князем Асцеем, унукам князя ВКЛ Альгерда. Абяцаннем міру Тахтамыш выманіў Асцея і тут жа каля гарадскіх варот забіў яго, полчышчы Арды ўварваліся ў Маскву.

І можа паказацца дзіўным, што хан – загубца пляменніка Вітаўта – знайшоў прытулак пад яго заступніцтвам. Але дзіўнага тут нічога няма. Вітаўт праследаваў далёкасяжныя мэты. Рускі летапісец запісаў, абагульняючы, планы Вітаўта: пойдзем і паб'ём Цемір-Кутлуя, які займаў тады ханскі трон Залатой Арды, забярэм яго царства і пасадзім на ім Тахтамыша, "а сам сяду на Москве, на великом княжении, на всей русской земли".

Здзейсніць, аднак, гэтыя планы не прыйшлося. Пасля паходу Вітаўта на поўдзень і разгрому ягонага войска на рацэ Ворскле апошні вярнуўся ў ВКЛ, а Тахтамыш рушыў на ўсход, дзе ў Сібіры быў забіты царом Шыдзібікам: "... царь Шидибик убил Тохтамыша в Сибирской земли".

Побыт Тахтамыша ў Лідзе меў свае наступствы. Яго сын Джалал Эддзін на чале шматлікага татарскага войска на баку ВКЛ і Польшчы браў удзел у бітве пад Грунвальдам з крыжакамі ордэна Мечаносцаў.

У час побыту татар у Лідзе склаліся літоўска-татарскія княжацкія роды. Найбольш вядомы ў гісторыі ВКЛ і Расіі род Глінскіх. Першыя з роду – Іван і Барыс – і найбольш уплывовыя – Васіль Львовіч і яго брат Міхаіл, а таксама Алена Васільеўна.



Алена Васільеўна стала жонкаю маскоўскага князя Івана III і маці першага рускага цара Івана IV Васільевіча Грознага. Васіль да гэтага быў жанаты з бяздзетнай Саламоніяй. У той час пры двары княжацкім разам са сваім дзядзькам Міхаілам Глінскім з'явілася маладая, кемлівая і прыгожая Алена. Князю Васілю прыглянулася прыгажуня. З дазволу царквы князь развёўся з Саламоніяй і ажаніўся з Аленай. І ў 1533 годзе прыйшоў на свет першы расійскі цар. Як адзначаў летапісец, у ноч перад родамі на Маскву абрынулася страшэнная навальніца з громам і маланкамі, быццам прырода прадвяшчала прыход на свет жахлівага чалавека.

Вось такая гісторыя праследжваецца ад "Тахтамышавага Двара" ў Лідзе да маскоўскага Крамля.

*Анатоль КУЛЕШ, г. Ліда*

***На здымках:*** *Крыжаўзвіжанскі касцёл на пачатку ХХ ст. і сучасны выгляд*

## Лік заслужаных пабольшаў

Адпаведныя званні за творчыя дасягненні прысвоены гомельскім самадзейным калектывам – вакальна-харэаграфічнаму калектыву "Гомій" гарадскога цэнтра культуры Гомеля і фальклорнаму гуртку "Журавінка" Слабодскага сельскага Дома культуры Лельчыцкага раёна. Адпаведныя пасведчанні ўручаны Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь.

*І мы ўмеем*

## Усім брыльянтам брыльянт

Усяго некалькі гадзін пабыла на прылаўках першая партыя унікальных залатых упрыгожанняў з ювелірнымі ўстаўкамі са звышцвёрдага матэрыялу "алмазот", выкананага ў каляровай гаме лімоннага і канарэечнага колераў. Гэты штучны камень, што пераўзыходзіць алмаз па трываласці і аптычных характарыстыках, сінтэзаваны ў нашай краіне і атрымаў камерцыйную назву "Брыльянт Беларусі".

Характэрная асаблівасць такіх упрыгожанняў – іх адзіночная і дробнасерыйная вытворчасць. Пры гэтым кожны брыльянт мае іменную ідэнтыфікацыйную маркіроўку. Выпрабляе эксклюзіўную прадукцыю завод "Ювелір" Рэспубліканскага алмазаапрацоўчага унітарнага прадпрыемства "Гомельскае ВА "Крышталь", які мае намер у бліжэйшы час пабольшаць яе пастаўкі на продаж.

*"Рэспубліка", 28 лютага 2004 г.*

*Забытае сучаснае*

# Пісьменнікі, пра якіх мы не ведалі

***Кнігай 2003 года назвала выдавецтва "Беларуская навука" "Анталогію даўняй беларускай літаратуры: XI – першая палова XVIII стагоддзя", падрыхтаваную вучонымі НАН Беларусі.***

Вы чыталі паэму "Пруская вайна" Яна Вісліцкага, якая ў XVI стагоддзі была названа еўрапейскім шэдэўрам? А "Дзесяцігадовую аповесць пра ваенныя справы пана Крыштофа Радзівіла" Андрэя Рымшы? А мемуары беларускага гусара Самуіла Маскевіча "Дыярыуш"? А любоўныя вершы Францішкі Уршулі Радзівіл? Ну хоць пра інтэрмедыю "Чорт Асмалейка" невядомага аўтара чулі?

Не? Я таксама, бо ў школьных падручніках гэтых імёнаў у мой час не было.

І вось вучоныя паднеслі іх шырокаму колу чытачоў як кавалак золата. Гэта салідны, больш за тысячу старонак, фаліянт.

– Дзякуй выдавецтву, што пайшло нам насустрач, – кажа загадчык аддзела гісторыі беларускай старажытнай і новай літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, навуковы рэдактар і адзін з укладальнікаў кнігі Вячаслаў Чамярыцкі. – Мы планавалі 50 аркушаў, а атрымалася больш за 50, і нічога, не скарацілі. І гэта не ўсё, далёка не ўсё, што можна было б прапанаваць чытачам. Гэта, можа, палова працэнта ад тых некалькі працэнтаў, што засталіся ад літаратурнай спадчыны Беларусі. Асноўная частка загінула ў войнах і пажарах. Але нават калі б выдаць толькі тое, што засталося, гэта былі б дзесяткі, а мо, і сотні тамоў.

Пяць гадоў група вучоных працавала над зборам твораў, укладваючы ў пераклады талент паэтычнага слова, вышукваючы ў рэдкіх слоўніках тлумачэнні старадаўніх слоў, кожнае з якіх было на вагу золата. Адказнасць адчувалі каласальную. Кніга, відавочна, будзе мець міжнародны рэзананс, зацікавіць вучоных-славістаў іншых краін, таму што ўключае беларуска-польскія, расійскія, літоўскія, украінскія творы. Яе даўно чакалі, пра яе пыталіся вучоныя і выкладчыкі суседніх краін, і найперш, канешне, мінскіх вышэйшых школ. Вучоныя нават адклалі галоўную калектыўную працу – "Гісторыю беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў" у двух тамах, бо найперш патрэбны былі самі тэксты.

А апошняя хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры, выдадзеная 45 гадоў таму, даўно ўстарэла.

Алена Богдан, Алесь Бразгуноў, Сяргей Гаранін, Ларыса Гедзімін, Любоў Ляўшун, Вячаслаў Чамярыцкі – кандыдаты філалагічных навук і моцныя вучоныя – увесь гэты час проста дыхалі кнігай. Колькі б я ні прыходзіла да іх у аддзел – толькі і бачыла горы рукапісаў, стомленыя вочы, вечары за камп'ютэрам, творчыя нарады, на якіх іншыя вучоныя і выкладчыкі дзяліліся рэдкімі матэрыяламі і каштоўнымі парадамі. А зайсці да гэтых хлопцаў і дзяўчат – дык проста напіцца свабоды, таленту, натхнення, патрыятызму, як найлепшага віна.

– Мы, як і Скарына ў свой час, лічым, што кніга на роднай мове патрэбна людзям не менш, чым хлеб, – кажа В. Чамярыцкі. – Калі б усё знікла, але засталіся бібліятэкі, народ не загінуў бы. На гэтым будуецца дух адраджэння чалавека і народа. У гэтым сэнсе правільна робіць Прэзідэнт, што кінуў усе сілы на будаўніцтва бібліятэкі. І мы мяркуем, што гэтая кніга – своеасаблівая цагліна ў той будынак. Важкая цагліна. Багаццем зместу, грунтоўнасцю каментарыяў, высокім навуковым узроўнем падрыхтоўкі тэкстаў анталогія, спадзяёмся, уздыме прэстыж беларускай гуманітарнай навукі.

– Вячаслаў Антонавіч, хачу я выдзеліць з сэнсу кнігі асноўнае: літаратурныя творы – гэта люстэрка душы народа. Дык растлумачце на падставе вашай кнігі, як змяніўся за тысячагоддзе беларускі чалавек?

– Раней ён больш залежаў ад прыроды, карміўся ад яе, жыў з ёй у гармоніі і быў такі ж шчыры, як яна. Больш просты, чысты, наіўны. У багоў верыў, якія адказваюць за канкрэтны лес, рэчку, поле. І прырода тады была непараўнальна багацейшая. Вядома, за гады і стагоддзі, што з тае пары прайшлі, змянілася многае. Зрэшты, галоўнае не ў гэтым. Яно ў тым, што як бы ні змяняўся беларус, але ён быў і застаецца патрыётам. І такому чалавеку наша кніга – найлепшы падарунак.

***Інеса БАГДЗЕВІЧ***





# Пра стан экалогіі клапоцяцца школы

**_Гісторыка-краязнаўчыя музеі Васілішкаўскай, Ражанкаўскай, Шчучынскай № 1 сярэдніх школ Гродзенскай вобласці маюць экспазіцыю "Родная прырода". Тут выстаўлены муляжы грыбоў, ягад, пудзілы птушак і жывёл тутэйшай мясцовасці, векавых раслін._**

"У музеі СШ № 1 г. Шчучына, – кажа старшыня краязнаўчага таварыства Шчучынскага раёна Людміла Антухевіч, – у экспазіцыі ёсць феналагічныя назіранні вучняў, захоўваюцца ўзоры рэдкіх і занесеных у Чырвоную кнігу раслін".

Захапленне феналогіяй былога вучня школы Вячаслава Абрамовіча стала яго прафесійнай дзейнасцю. У паходах і экскурсіях сабраны і аформлены матэрыялы па праблемах малых рэчак раёна, напрыклад Ельні, Свянціцы і іншых. Сабраны таксама звесткі аб выяўленых крыніцах Шчучыншчыны.

Актыўнай формай экалагічнай адукацыі тут лічаць удзел школьнікаў у рэспубліканскім эколага-адукацыйным праекце "Малым рэкам – наш вялікі клопат". Праект прадугледжвае стварэнне рэгіянальнай сістэмы школьнага маніторынгу і рашэнне мясцовых экалагічных праблем, пашпартызацыю малых рэк краіны. Навуковае кіраўніцтва праектам ажыццяўляе міжнародны экалагічны універсітэт імя акадэміка А.Д. Сахарава.

З мая па лістапад 2001 года ў раёне праводзіліся мерапрыемствы па рэалізацыі гэтага праекта. Удзельнічалі экалагічныя атрады сямі сярэдніх і базавых школ на чале з кіраўнікамі – настаўнікамі геаграфіі і біялогіі.

Праведзены паходы па малых рэках, сабраны матэрыял аб забруджвальніках прыродных вадаёмаў. Праводзілася папаўненне гербарыяў. Ладзіліся назіранні за жывёламі і птушкамі. Удзельнікі ачышчалі ручаі, добраўпарадкавалі берагі рэк ад засмечвання, садзілі дрэўцы. Праца ў гэтым кірунку ўжо стала традыцыйнай.

"Дзень ракі" праводзіўся ў Ашмянцоўскай базавай школе. Сябры экалагічных атрадаў, папулярызуючы веды, гутарылі з вучнямі малодшых класаў, насельніцтвам, выпускалі насценгазеты. Па выніках конкурсу месцы размеркаваліся так: Ашмянцоўская, Мажэйкаўская, Гурнофельская базавыя школы. Летась Ашмянцоўская і Дудкоўская базавыя школы былі адзначаны першымі і другімі ў вобласці. Пераможцы атрымалі дыпломы і фотаапараты "Кодак". За ўмелае кіраўніцтва рэалізацыі праекта ганаровымі граматамі адзначаны настаўнікі Аксана Яўгенаўна Шпір (Ашмянцоўская школа), Святлана Уладзіміраўна Налівайка (Дудкоўская школа), метадыст раённага аддзела адукацыі Наталля Анатольеўна Машкала.

На працягу 1999/2000 навучальнага года праведзены раённы конкурс "Горад, вёска 3-га тысячагоддзя". Вызначыліся сярэднія школы № 2 і № 3 Шчучына, Ашмянцоўская базавая школа.

У рамках рэспубліканскай экалагічнай акцыі "Дзень Зямлі. Беларусь 2001 г." праводзіўся раённы экалагічны конкурс. Вучні Ашмянцоўскай базавай школы занялі першае месца не толькі ў раёне, але і ў вобласці. На рэспубліканскім аглядзе яны абаранялі самастойны праект "І ад мяне залежыць, якой будзе рачулка Лебяда". Краязнаўчы гурток турыстаў са Шчучына, якім кіруе А.С. Аніська, заняў другое месца сярод праектаў "І ад мяне залежыць, які мой горад будзе". Трэцяе месца занялі краязнаўцы Дзембраўскай СШ з праектам "І ад мяне залежыць, якім будзе наш пасёлак".

***Антон ЛАБОВІЧ,***
***г. Гродна***

## Мінск–Магілёў

Бывае, вось жывём у не такой вялікай па плошчы краіне, марым пабываць у Амерыцы, Афрыцы, Азіі ці на Паўночным полюсе, "скарыць" Эверэст (добрыя мары), але не ўсе з нас больш-менш ведаюць нават нашы, свае старажытныя, сёння адноўленыя гарады.

Таму можна толькі вітаць тое, што пасланцы нашай сталіцы апошні тыдзень сакавіка прысвяцілі Магілёву, каб лепш пазнаёміцца з яго гісторыяй, рэчаіснасцю, наведаць сучасныя прамысловыя прадпрыемствы, навукова-культурныя ўстановы, наладзіць сумесныя семінары па самых розных актуальных пытаннях, спартыўныя спаборніцтвы і, канечне ж, канцэртныя праграмы.



*Здымак зроблены ў 1997 г. у адселенай в. Кузьмічы Ельскага раёна*

*Міхась ХАМЕЦ (фота), [illegible] (верш)*

## Стогадовікі

Згодна са статыстыкай, сёння ў Беларусі жыве 868 чалавек, якім ужо за 100 гадоў. З іх 124 нарадзіліся яшчэ ў XIX стагоддзі. А самая ганаровая з іх — не толькі ў нас, але, можа, і ва ўсёй Еўропе — Агрыпіна Антонаўна Варкова з Барысава. Яна, як запісана ў пашпарце, нарадзілася 19 студзеня 1886 года. Анастасія Фёдараўна Талейка і Ганна Адамаўна Барысевіч з Мінска нарадзіліся ў 1888 годзе і таксама могуць ацэньваць жыццё, гісторыю, падзеі вось ужо за трэцяе стагоддзе.

"Краязнаўчая газета" звяртаецца найперш да нашых маладых чытачоў, школьнікаў і студэнтаў: сябры, як бачыце, у нас няшмат людзей такога веку, але і нямала. Падыдзіце прыязна да іх, пагутарыце. Яны, людзі розных жыццёвых укладаў, пагляду, могуць расказаць як сведкі свайго часу пра тое, што вы не прачытаеце ні ў якіх падручніках. Запішыце іхнія расказы — старонкі-сведчанні нашай гісторыі, людскога лёсу.

*Надзённая публікацыя*

# Руская мова можа знікнуць ад Літвы да Кіргізіі

### Рускую не любяць

Нядаўна латвійскі сейм вырашыў з 1верасня адмяніць у рускіх школах вывучэнне прадметаў на рускай мове, пакінуўшы толькі "аднайменную" мову і літаратуру. У Эстоніі да 2007 года таксама можа не застацца ні адной паўнацэннай рускай школы, бо 60 % прадметаў будзе выкладацца на эстонскай мове і толькі 40 % – на рускай. У сталіцы Літвы згодна з "планам аптымізацыі школ" да 2010 года з 25 школ з рускай мовай навучання павінны застацца 10. Ды што Прыбалтыка! Вось у Туркменіі расправіліся з рускай мовай на працягу аднаго года: не толькі закрылі факультэт рускай філалогіі ў галоўнай ВНУ краіны, але і адмянілі выкладанне на "вялікім і магутным" ва ўсіх вышэйшых і сярэдніх установах краіны.

### Рускую церпяць

У вышэйшых навучальных установах Грузіі руская мова мае статус замежнай, рускіх школ – 59, а ў 112 можна вывучаць прадметы на рускай мове. Большасць негрузінскіх сем'яў аддаюць дзяцей у грузінскія школы, "каб не было праблем з вучобай і працай у краіне". Моладзь аддае перавагу вывучэнню англійскай мовы, бо руская цэпер не перспектыўная.

І пасля 12 гадоў незалежнасці Казахстана руская мова па-ранейшаму застаецца дамінуючай ва ўсіх сферах жыцця краіны. Казахская мова афіцыйна з'яўляецца дзяржаўнай, руская – прызнана мовай міжнацыянальных зносін. На банкнотах нацыянальнай валюты – тэнге – надпісы на рускай і казахскай мовах.

На Украіне 17 000 школ, дзе выкладанне вядзецца выключна на дзяржаўнай мове: у 1 700 школах краіны вучаць на рускай, а ў 2 200 увогуле "двайны стандарт" – там прадметы чытаюць і на ўкраінскай, і на рускай. У арміі пераважная большасць афіцэраў, аддаючы рапарт камбату, замест "пан палкоўнік", звяртаецца "таварыш", а салдатам камандуюць "шагам марш!", але ніяк не "крокам руш!".

### На ёй гавораць!

У Кіргізіі руская мова мае статус дзяржаўнай побач з кіргізскай, палова з пяцімільённага насельніцтва краіны гаворыць па-руску.

У Беларусі да рускай мовы вельмі лаяльныя адносіны. Роўныя канстытуцыйныя правы маюць дзве мовы – беларуская і руская.

У адукацыі беларуская мова з году ў год здае свае пазіцыі, і цяпер (дадзеныя 2002/2003 навучальнага года) у школах з беларускай мовай навучання вучыцца 20,6 % дзяцей, з рускай – 57,5 %, у школах з дзвюма мовамі навучання – 21,8 %. Пры паступленні ў ВНУ абітурыенты могуць выбіраць, па якой (рускай альбо беларускай) мове ім здаваць пісьмовы экзамен. Большасць зноў жа выбіраюць рускую!

***"АиФ в Беларуси", 2004, № 5.***
***Пераклад з рускай мовы***

***Каментарый члена рэдкалегіі "Краязнаўчай газеты" пісьменніка Генрыха Далідовіча:*** "Безумоўна, па ўсіх нормах чалавечнасці, прыстойнасці і высакароднасці неабходна, каб кожная нацменшасць у краіне магла задавальняць свае інтэлектуальныя і духоўныя магчымасці на роднай мове, але і гэтак жа, безумоўна, па вышэйзгаданых нормах яна павінна не адносіцца фанабэрліва да гісторыі, мовы, культуры карэннага народа. У адносінах да рускіх, пра якіх ідзе гутарка ў "аіфаўскім" артыкуле, ёсць выдатныя прыклады, калі яны ўносілі і ўносяць вялікі ўклад у навуку, у культуру тых народаў, дзе цяпер жывуць, але, на жаль, ёсць і адмоўныя ўзоры, калі яны, апроч уласна Расіі, хочуць мець яшчэ сваю Расію ў кожнай былой савецкай рэспубліцы, падбіваюць на гэта несвядомых ці нігілістычных мясцовых.

Добра, выдатна, што ў нас, як гавораць з высокіх трыбун, "рускім жывецца лепш, чым у Расіі", але вельмі дрэнна, а то, выбачайце, і небяспечна, што беларуская мова ў Беларусі не толькі не на дзяржаўным узроўні, але "з году ў год здае свае пазіцыі". У многіх выпадках яе свядома, мэтанакіравана выцяскаюць з дашкольных, сярэдніх і вышэйшых навучальных, дзяржаўных устаноў, са старонак газет, радыё і тэлебачання. Ці я ў чымсьці перабольшваю? Не, землякі, усё – навідавоку штодня. Невыпадкова ж столькі плачу па СССР, размоў пра перспектыву нашай губернскасці. І не толькі размоў, але і цяперашняй дзейнасці – найперш па моўнай справе.

А што да журналістаў паважанага мною "АиФ в Беларуси", то ў гэтым іхнім артыкуле мяне, грамадзяніна-патрыёта Рэспублікі Беларусь, ажно торгнуў апошні сказ, вокліч (клічнік) у канцы. Калі ў гэтым непрыемнае здзіўленне, то гэта – адна рэч. А калі радасць?

Чаму радавацца? Так званай нашай "талерантнасці", за якой тое прыкрае, непаважліва-пагібельнае для нас, чаго ў іншых няма і не будзе?! Цешымся за сонечны захад нашай нацыі?! Хіба таму ж агульнаславянскаму мору патрэбна, каб загрувасціць і не дапусціць да яго яшчэ адну рэчку са свежай вадою?!"



*150 гадоў таму ў Варшаве нарадзіўся хлопчык, якога пасля назавуць вядомым фалькларыстам і этнографам, археолагам і калекцыянерам. Звалі хлопчыка Міхал Федароўскі. З біяграфічных дадзеных вядома, што бацька будучага даследчыка ўдзельнічаў у паўстанні 1863–1864 гадоў і быў вымушаны жыць у эміграцыі. У 1870 годзе Міхал скончыў Варшаўскую прагімназію. Навучанне ішло 4 гады на рускай мове. У час навучання і прыйшла зацікаўленасць да фальклору, да прыказак і прымавак, якія юнак пачаў запісваць ад варшавян.*

*Славутыя імёны*

# Паляк — "стваральнік" беларускага люду

Вучыўся ж хлопец з вялікімі перапынкамі. У 13 гадоў захварэў на сухоты. Таму шмат часу праводзіў на вёсцы, у дзеда. Расказы пра старадаўнія часы, пра паўстанне 1830 года спрыялі выхаванню патрыятызму. Дзед зацікавіў малога і старымі песнямі.

Пакліканы бацькам, Міхал робіць спробу ў 1870 годзе выехаць у Францыю. Але на мяжы яго спыняюць і вяртаюць у Варшаву пад паліцэйскі нагляд. Бацька яго тады ж гіне пад Арлеанам як салдатвольнанаёмнік. Гэты выпадак падштурхоўвае маладога чалавека да навучання, бо пра гэта вельмі дбаў ягоны бацька.

Пад кіраўніцтвам Ф. Крупінскага, былога свайго настаўніка па школе на Лешні, Міхал пачынае паглыблена вывучаць філасофію, літаратуру. Культ факта, які панаваў у гэты перыяд у грамадстве, знайшоў адлюстраванне ў спробе юнака займацца канкрэтнай справай – агратэхнікай. Рэальнае жыццё таксама не засталося без увагі – ён стаў фалькларыстам і этнографам.

У 1873 годзе ён запісваецца вольным слухачом аграномічнага факультэта Пятроўска-Разумоўскай акадэміі пад Масквой. Праз пяць месяцаў ён пакідае заняткі з-за паўторнага запалення лёгкіх. Родныя раяць знайсці працу на свежым паветры. Працуючы аграномам у шляхецкіх маёнтках, Міхал сутыкаецца з беларусамі. Бачыць іх звычаі, абрады. Наведваючы Вільню, знаёміцца з Ясафіем Тышкевічам, Вандалінам Шукевічам, Люцыянам Марачэўскім.

Падарожжы па Польшчы пазнаёмілі яго з буйнымі гарадамі, старажытнымі замкамі, цікавым жыццём простых людзей. У Кракаве ён сустракае Адрыяна Баранецкага, стваральніка і захавальніка фондаў Прамыслова-тэхнічнага музея. У яго Федароўскі сустракаецца з вядомым этнографам Зыгмунтам Глогерам. Неўзабаве яны пасябравалі і пачалі рабіць сумесныя экспедыцыі. У 1875–1877 гадах збіраў матэрыял для манаграфіі "Люд ваколіц Жарак, Севежа і Піліцы...", выдадзенай у двух тамах у 1888–1889 гадах.

У 1877 годзе Федароўскі пераехаў у Пружанскі павет Гродзенскай губерні. На Беларусі ён пражыў 30 гадоў і за гэты час зрабіў шмат для даследавання духоўнай і матэрыяльнай культуры тутэйшых жыхароў. Збіраў кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі, фальклор. Займаўся археалагічнымі раскопакамі курганоў, магільнікаў. Збіраў матэрыялы для археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі.

Сабраў 5 000 народных песень, 10 000 прыказак, сотні казак, паданняў, прымхаў, сакрэтаў народнай медыцыны. Заахвочваў да збору фальклору мясцовых карэспандэнтаў. Больш за 1 500 песенных і танцавальных мелодый па яго замове запісалі Я. Карловіч, Л. Патул, І. Грачык.

Публікацыю назапашанага пачаў з 1887 года ў працы пад назвай "Люд беларускі". Пры яго жыцці выйшлі толькі тры тамы з запланаваных чатырнаццаці (1897–1903). Наступныя пяць тамоў пабачылі свет у 1935–1981 гадах. Навадрукаваная спадчына цяпер захоўваецца ў бібліятэцы Варшаўскага універсітэта, у Навуковым архіве Польскага этнаграфічнага таварыства ў Вроцлаве і архіве Польскай акадэміі навук.

Марыў выдаць асобны том, прысвечаны матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа і шляхты, дапоўніць вядомы слоўнік І. Насовіча 4 283 аркушамі сваіх моўных запісаў.

З 1905 года і да канца жыцця жыў у Варшаве, але адтуль падтрымліваў сувязі з беларускімі карэспандэнтамі, антыкварамі, калекцыянерамі. Прымаў удзел у фарміраванні калекцый Тышкевічаў, Д. Віткі-Яжэўскага, пры яго пасрэдніцтве А. Чалоўскі набыў матэрыялы з архіваў роду Грабоўскіх, Пацаў, Пацеяў, Сапегаў, Храптовічаў. Па даручэнні калекцыянера К. Пржыбыльскага расшукваў старадрукі ў Варшаве і Вільні.

У час Першай сусветнай вайны частку зборау прадаў праз антыкварную краму. 350 кніг і часопісаў ахвяраваў Інстытуту антрапалагічных навук Польшчы. Астатняе раздаў сябрам С. Дэмбу, М. Абрамовічу, Я. Гамаліцкаму і іншым.

10 чэрвеня 1923 года Міхала Федароўскага не стала. Пахаваны ён на Павонзаўскіх могілках у Варшаве. Варшаўскае навуковае таварыства на яго магіле ўстанавіла пліту з надпісам: "Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар "Люду беларускага". 1853–1923".

*Алесь РАЛАВЕЦ, г. Маладзечна*

## Курган Славы аднаўляецца

Ён (поўная назва Курган Савецкай Арміі – вызваліцельніцы Беларусі) быў пастаўлены ў гонар 1-га, 2-га, 3-га Беларускіх і 1-га Прыбалтыйскага франтоў у Беларускай аперацыі 1944 года на 21-м кіламетры шашы Мінск–Масква. Адкрыты ў 1969 годзе.

Як нядаўна паведамлялася, Курган Славы звыш трыццаці гадоў дагледжваўся слаба, не рамантаваўся, дык цяпер, ідучы насустрач 60-годдзю Перамогі, узнікла патрэба паднавіць яго – паправіць палівачны басейн, адміністрацыйны будынак, трубаправоды, а яшчэ – адрамантаваць прыступкі, што вядуць наверх, а таксама пляцоўкі.

Ініцыятыву па зборы сродкаў на аднаўленне Кургана Славы ўзялі на сябе нашы прафсаюзы. Грошы паступаюць з самых розных крыніц: як ад прадпрыемстваў, так і ад прыватных асоб. Дзеля гэтага адкрыты спецыяльны дабрачынны рахунак.

## 3 красавіка – "Забота"

У Магілёве гарадскія ўлады вырашылі вярнуцца да сваёй ранейшай практыкі і ва ўсіх мікрараёнах Магілёва адрадзіць крамы "Забота", якія будуць працаваць найперш для ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, інвалідаў, шматдзетных сем'яў. Яны ў сваіх гастраномах змогуць набыць патрэбныя тавары на 10–15 працэнтаў танней, чым у іншых магазінах.



*1944 год. Цэнтр Полацка, разбураны акупантамі*

*Памяць, дружба*

## Украінскія ўзнагароды магіляўчанам

Іх уручыў ваенны аташэ пры пасольстве Украіны ў Рэспубліцы Беларусь 60 насельнікам Магілёва. Яны ўдастоіліся дзяржаўнай узнагароды суседняй краіны – медаля "Захиснику Витчизны" – як ветэраны Другой сусветнай вайны, якія ўдзельнічалі ў вызваленні Украіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Урачыстасць адбылася ў Магілёве, дзе высокі госць паведаміў, што згодна з Указам Прэзідэнта Украіны 400 магіляўчан адзначаны такімі ўкраінскімі дзяржаўнымі ўзнагародамі.

## 30 сакавіка – ці збаімся Дамавіка?

Ужо колькі стагоддзяў беларусы ўяўляюць яго невялічкім старэнькім дзядулем, які хоча павагі ды пашаны. Але барані бог чым-небудзь не дагадзіць яму – пад гарачую руку трапіць усе. А ўвогуле, вядомы ён як вялікі гарэза і штукар, што любіць пасваволіць. Як толькі вечаровы змрок пастукае ў вокны, выходзіць Дамавік на начную варту. Чуеце? Ляснулі дзверы – гэта ён. Не пужайцеся, не здзіўляйцеся, калі ўсю ноч напралёт будуць рыпець дзверы і падлога, дрыжаць сцяна ды лесвіца ад грукату. Больш непрыемна, калі нехта пасярод ночы сцягне з вас коўдру ды зарагоча ў самае вуха.

Менавіта так апісвала мне бабуля найважнейшага гаспадара дома. Дзіўна, але дагэтуль на Палессі ў чалавечым уяўленні жыве Дамавік, якога любяць, але баяцца, імкнуцца ўлагодзіць сваімі дзеяннямі. Я не магла зразумець, як палешукоў, што вераць у Бога, не бянтэжаць персанажы міфалогіі. Сваімі думкамі я падзялілася з бабуляй, на што яна зашыкала: "Сціхні, дурніца. Не гнявi ні таго, ні другога. Калі Бог пры стварэнні свету скінуў на зямлю ўсе жывыя і нежывыя істоты, якія пазней вырашылі супроць Яго ўзняць бунт, то сярод іх былі нячыстыя духі, што засяліліся ў людскіх хацінах. Паўплываў на нячысцікаў чалавек – згубілі яны свае дрэнныя якасці, абліччам нават да нас падобныя сталі. Сярод якіх вяскоўцаў жыве Хатнік, тых і нагадвае".

Адвольна твар расплываецца ўсмешкай ад забабонаў і прымхаў. Але бабуля не звяртае ўвагі на мае жартачкі і працягвае, як аднавяскоўцы, ставіць гаршчок з кашай на прыпечак, часам некалькі лыжак кідае ў агонь. Калі каша патрэсквае ў полымі, Падпечнік пачынае насычацца. А калі забудзешся пакінуць страву, Дамавік мэблю за ноч можа паламаць, салому расцягне... А тое – і з хатай развітаешся. А пакуль гэтага не здарылася, жыве Дамавік у сялянскай печы ці за ёй – у сваім улюбёным месцы. Адтуль па начах даносяцца рогат, крыкі, выццё. Гэта ён радуецца або сумуе за пражытыя дзень.

Звычайна сам Хатнік імкнуўся жыць у ладзе з сям'ёю. Актыўна дапамагаў. Бабка расказвала, што даўней, ідучы ў поле, не забываліся на Палессі яшчэ пра аднаго "працаўніка" : ідучы на працу, бралі ежу і на яго.

Але людзі добра памяталі і тыя дні, калі Дамавік бывае не ў гуморы, загадзя рыхтаваліся да іх. Прыкладам, страшэнна лютуе дзядулька 30 сакавіка, нікога не пазнае – гэта ён так пакутліва скідвае ў гэту ноч скуру. Перападае ўсёй свойскай жывёле: каровы раніцай не даюць сябе даіць, авечкі – спалоханыя, сабакі – пакусаныя, у коней – моцна зблытаныя грывы. Людзі, як толькі сцямнее, не адважваюцца падыходзіць да вокнаў. Утаймаваць дзікунствы "гаспадара" можа толькі певень, бо Дамавік баіцца яго. Праспявае певень тры разы – наступае поўная цішыня.

Вось так жылі: сварыліся і мірыліся, але ніколі не забываліся адно пра аднаго. Часам і сёння ў палескай хаце можна бачыць мяшэчак з акрайчыкам хлеба і соллю, што ляжыць пад паветкаю ці на печы. Так задобрываюць сваіх Дамавікоў. Як кажуць старыя, – сапраўдных членаў сям'і.

*Валянціна КАЗЬМІНА, вучаніца 11 класа СШ № 41 г. Мінска*



*Лужасна, стары дом*

*Здымак з www. kraj. vitebsk.net*





## Мінскія беларусісты — сябры Саюза пісьменнікаў Украіны

Вядомыя навукоўцы і літаратары, доктар філалагічных навук Вячаслаў Рагойша і кандыдат філалагічных навук Таццяна Кабржыцкая, у самым канцы 2003 года былі прыняты ў Нацыянальны саюз пісьменнікаў Украіны.

Выступаючы ў час прыёму, вядомыя ўкраінскія пісьменнікі Пятро Засэнка, Змітро Паўлычка, Іван Драч і Юрый Мушкецік гаварылі пра заслугі Т. Кабржыцкай і В. Рагойшы ў пашырэнні ўкраінскай літаратуры ў Беларусі (яны тут выступаюць і як даследчыкі, і як перакладчыкі), умацаванні творчых кантактаў.

*Тамара ШКУРКО*

*Версіі*

## Дзе ты, Одрск?

Шмат, вельмі шмат яшчэ неспазнанага ў гісторыі нашай краіны. З яе карты знікла, напрыклад, столькі паселішчаў, што час стварац. Некропаль былых гарадоў, мястэчак, вёсак, фальваркаў... На наша шчасце, большасць былых населеных пунктаў на картах і ў памяці людзей маюць сваё замацаванае месцазнаходжанне. Але шмат якім паселішчам не пашанцавала. Згадваюцца яны ў пісьмовых крыніцах, ды невядома, дзе іх сляды. Сярод іх – і горад Одрск.

У «Павучанні» Уладзіміра Манамаха вялікі князь успамінае Одрск: «І Святаслаў памёр, і я зноў пайшоў у Смаленск, а са Смаленска той жа зімой у Ноўгарад, увясной – Глебу ў дапамогу. А летам з бацькам – пад Полацк, а на другую зіму са Святаполкам пад Полацк, і выпалілі Полацк, ён пайшоў да Ноўгарада, а я з полаўцамі на Одрск вайною і ў Чарнігаў».

Пра Одрск пісаў і знакаміты наш зямляк, таленавіты рускі паэт Ігар Шклярэўскі ў сваім творы «Па дарогах «Слова...». Энцыклапедыя «Археалогія і нумізматыка Беларусі» (1993) на старонцы 468 адзначае: «ОДРСК, горад, які ўпамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха ў сувязі з яго паходам на Полацк у 1078 г. З. Даленга-Хадакоўскі выказаў меркаванне, што Одрск знаходзіцца на рацэ Адроў (правы прыток Дняпра), на Аршаншчыне, але гэта не пацверджана раскопкамі: рускі гісторык М. Карамзін лічыў, што ў крыніцы напісаны Одрск замест Дрътеск (Друцк)».

Выкажу сваё меркаванне. Рака Адроў працякае па Віцебшчыне ў трох раёнах: Аршанскім, Сенненскім і Талачынскім, і мае даўжыню каля 75 кіламетраў. Нашым гісторыкам, археолагам варта было б папрацаваць пошукі.

Як мне здаецца, пры дапамозе аэрафотаздымкаў, выкарыстоўваючы камп'ютэрныя тэхналогіі, вывучаючы гістарычныя дакументы, можна рэканструяваць маршруты паходаў Уладзіміра Манамаха і ў рэшце рэшт вызначыць, ці быў сапраўды на тэрыторыі Беларусі гэты горад, ці Друцк і Одрск – адно і тое ж.

*Міхась УГРЫНСКІ,*
*г. Баранавічы,*
*«Культура»*

# Жаночае аблічча Беларусі

*(Працяг. Пачатак у № 9–10)*

Стваруюцца першыя марксісцкія гурткі, куды пранікаюць ідэі французскай рэвалюцыі, свабодалюбства, пастулаты еўрапейскай жаночай эмансіпацыі. Узмацняецца рэвалюцыйная прапаганда, што таксама пабуджае жанчын актыўна ўдзельнічаць у масавых выступленнях і нават займаць першыя ролі ў палітычных партыях, у тым ліку і сацыял-дэмакратычных. Капіталістычная эмансіпацыя рэвалюцыйнай эпохі ўклала ў жаночыя рукі не толькі кніжку, але і зброю. Яркі прыклад – дзейнасць сёстраў Ізмайлавых.

Пачынаецца смелая дзейнасць беларускіх патрыётак, якія не саступалі мужчынам ні ў навуковай, ні ў асветніцкай, ні ў палітычнай актыўнасці. І ўсё ж першая беларуская жаночая арганізацыя «Таварыства абароны жанчын», што ўзнікла ў Мінску у 1901 годзе на хвалі заходнееўрапейскай эмансіпацыі, была ініцыіравана мужчынам «вышэйшага свету», графам К. Чапскім. Арганізацыя знаходзілася пад уплывам прадстаўнікоў ліберальна-апазіцыйнага руху і аб'ядноўвала галоўным чынам жонак чыноўнікаў і прадпрымальнікаў. Пры таварыстве бясплатна працавалі юрыдычная кансультацыя, бюро па арганізацыі лекцый, у тым ліку па гісторыі, літаратуры, астраноміі. Для гараджанак розных саслоўяў чытаўся курс жаночай гігіены. Таварыства арганізавала таксама нядзельныя школы і дзённыя «яслі» для дзяцей рабочых. На мяжы стагоддзяў пачалі актывізавацца жанчыны-арыстакраткі. І асобна месца ў гэтым шэрагу займаюць прадпрымальніцы і мецэнаткі (графіня М. Патоцкая (нар. Сапега), княгіня І. Паскевіч-Эрыванская і інш.). Асобна адзначым, што для развіцця беларускай справы асаблівае значэнне мае дзейсная прыхільнасць Магдалены Радзівіл. У той жа час мацнее і шырыцца іншая жаночая змагарная хваля. На арэну барацьбы выходзіць яшчэ малавядомая, але моцная жаночая грамада – работніцы і вясковыя кабеты, якія шукаюць шляхі да вызвалення і адукацыі. Да адукацыі імкнуліся ўсе. Вось чаму пачынальніца масавага жаночага беларускага руху, паэтэса вольнага духу і «буры» Цётка была, акрамя ўсяго, і стваральніцай новай канцэпцыі нацыянальнай асветы, у тым ліку жаночай. Выступаючы за правы і годнасць кожнага чалавека як асобы, за незалежнае развіццё ўсёй беларускай нацыі, Цётка карысталася вялікай папулярнасцю ў прадстаўнікоў многіх нацыянальных, дэмакратычных і рэвалюцыйных партый і рухаў. Пры яе актыўным удзеле эпоха нацыянальнага адраджэння пачатку ХХ стагоддзя вырашала задачы легітымізацыі беларускай мовы, прэсы і культуры. І жанчыны, якія ў гэтым удзельнічалі, былі натхнёныя найперш нацыянальнай ідэяй.

Пауліна Мядзёлка, Зоська Верас, Надзея Шнаркевіч, Апалонія Гіркант, Канстанцыя Буйла, Палута і Марыя Бадуновы, Казіміра Януўская, Леаніла Гарэцкая, Уладзіслава Мілковіч і іншыя лічылі сваім абавязкам не толькі змагацца за народную волю, але і будзіць нацыянальнае пачуццё дзяржаўнасці. Яны адчынялі першыя беларускія школы і чытальні, пісалі беларускія вершы для дзяцей, стваралі гурткі і хоры, ставілі перад сабою дабрачынныя мэты, адным словам, – пераносілі свае мацярынскія абавязкі ў сям'ю, прасторава-часавыя межы якой набывалі ўжо дзяржаўныя абрысы. Яны марылі абудзіць у беларускай жанчыне жаданне выхоўваць у новых пакаленнях цвёрдую волю і рашучасць змагання за новую незалежную радзіму.

Аднак гістарычная хроніка гэтага перыяду напісана асабліва змрочнымі фарбамі. Першая сусветная вайна 1914 года стала для беларускага насельніцтва сапраўднай трагедыяй. Заходнія губерні імперыі ператварыліся ў прыфрантавую паласу, у выніку чаго 50 працэнтаў мужчын было мабілізавана. Астатняя частка адпраўлялася на абарончыя рубяжы. Пачаўся перыяд глыбокіх крызісаў. Нават у неакупаваных губернях пасяўныя плошчы – галоўнае месца працоўнай занятасці вясковых жанчын – скараціліся на 15,6 працэнта. Рэзка скарацілася і пагалоўе статка, што пагражала голадам. Успыхвалі эпідэміі. Прадуктовы крызіс набываў палітычную афарбоўку. Пацягнуліся абозы бежанцаў, большую частку якіх складалі жанчыны з дзецьмі. З 6 899 000 чалавек беларускага насельніцтва (паводле дадзеных 1913 года) за цяжкія гады вайны і рэвалюцыйных падзей загінула і эмігрыравала паўтара мільёна чалавек. Дыспрапорцыя паміж мужчынскай і жаночай часткамі грамадства пастаянна паглыблялася. Але менавіта ў гэты перыяд жанчыны-патрыёткі, якія мелі складаны жыццёвы вопыт барацьбы за свае правы, аб'ядналіся для падтрымкі суайчыннікаў. У красавіку 1915 года Зоська Верас стварыла Мінскае аддзяленне Таварыства па аказанні дапамогі пацярпелым ад вайны. З развіццём ваенных падзей цяжкасці ўзрасталі. У верасні санітары толькі аднаго Мінскага чыгуначнага вузла штодня хавалі каля ста памерлых бежанцаў. Таварыствам у гэты час было адчынена шэсць бясплатных прытулкаў на 200 чалавек кожны. За год бежанцы атрымалі каля дзвюх тысяч бясплатных абедаў і шэсцьсот рублёў ахвяраванняў. Наступная вясна пачалася ўжо з наладжаных Зоськай Верас курсаў па садаводстве, пчалярстве. Заснаваная Цёткай яшчэ ў 1911–1912 гадах віленская жаночая арганізацыя таксама арыентавалася на беларускае асветніцтва і дабрачынную дапамогу жанчынам і дзецям. Але яшчэ болей сваю міласэрнасць Алаіза Пашкевіч выявіла падчас працы ў тыфозных бараках. Нават смерць гэтай незвычайнай жанчыны сімвалічная. Яна напаткала яе ў Лідскім павеце, дзе бушавала тыфозная эпідэмія, якая і ўзяла з сабою беларускую сястру міласэрнасці Алаізу.



*Палута БАДУНОВА*

Цэнтральная Еўропа набліжалася да рэвалюцыйнага выбуху. 1917 год стаў у гэтым сэнсе пераломным: лютаўскія падзеі далі жанчынам выбарнае права. Гэты новы зрэз часу імкліва актывізаваў жаночыя ініцыятывы. Беларускія актывісткі, якіх часта можна было сустрэць сярод агітатараў, заклікалі сваіх сяброўак і сёстраў выходзіць з цемры рабскага сну, каб запоўніць дабром і красою свет будучыні. Памкненні жанчын гэтага складанага перыяду поўніліся надзеямі на паляпшэнне жыцця. Аднак палітычныя падзеі разгортваліся па больш складаным і трагічным сцэнарыі новай перакройкі беларускай зямлі. У выніку чаго выпакутаваныя эпохамі барацьбы і працы, аплочаныя вялікімі ахвярамі жаночыя надзеі, да ажыццяўлення якіх заставалася, здаецца, адзін крок, так і засталіся нязбытнымі. Пачаўся шэраг новых выпрабаванняў, і беларускія жанчыны зноў звярнуліся да ідэй і светлага вобразу вялікай адраджэнкі пачатку стагоддзя Алаізы Пашкевіч. Нават праз гады пасля смерці слынная дачка беларускага народа многія жаночыя арганізацыі кіраваліся натхнёнымі Цётчынымі ідэямі. Дарэчы назваць хоць бы некаторыя з гэтых першых таварыстваў, што кансалідавалі жаночыя сілы не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і за яе межамі. Гэта «Пралеска» (Пецярбург, 1917); Гурток жанчын у Мінску (1917); Беларускае дабрачыннае таварыства Палуты Бадуновай «Цётка» (1918); Дамскі камітэт пры Радзе беларускай калоніі ў Латвіі (1920); Беларускі жаночы камітэт у Коўне і Вільні (1923); Аб'яднанне беларускіх жанчын імя Цёткі (пачатак 1931). Інтарэсы жанчын былі нацэлены на тое, каб сваёй працай і энергіяй «перарабіць зло на дабро». Гэтай высакароднаю мэтай кіруюцца жанчыны і сёння.



*Шчучын – радзіма Цёткі*

ЧАСТКА II. АСОБА – РАДЗІМА – ТВОРЧАСЦЬ

У кантэксце ўтварэння і станаўлення культурнай прасторы на пачатку ХХ стагоддзя асоба Алаізы Пашкевіч уяўляецца толькі ў лучнасці з важнейшымі грамадска-палітычнымі і культурнымі працэсамі, у тоеснасці з дзейнасцю відных дзеячаў таго перыяду. Называючы імя Цёткі, адразу ж згадваеш пра Вацлава Іваноўскага, Івана і Антося Луцкевічаў, а таксама Янку Купалу, Пауліну Мядзёлку, Канстанцыю Буйла... Зрэшты, як ніхто з названых і неназваных самаахвярных беларускіх адраджэнцаў менавіта Цётка ўвасобіла ў сабе і высокі інтэлект выключнай Асобы з аднаго боку, і той масавы, калектыўны талент нацыі, які і прадвызначыў яе жаночую беларускасць: беларускасць у плане нацыянальнага «касмапсіхалогасу» (паводле Г. Ганчарова) з боку другога.

Агульнавядома: спадчына літаратурная не можа даць поўнага ўяўлення пра феномен Алаізы Пашкевіч. Гэта калі разбіваць яе творчасць на тэмы і сюжэты, галоўныя матывы і мастацкія сродкі. Унікальнасць творчай спадчыны якраз у тым, што праз катэгорыі літаратуразнаўчага кшталту прарастае гістарызм – гістарызм кожнай хвіліны, кожнага дня і, вядома, кожнай значнай падзеі, у якіх жыла і Цётка-пісьменніца, і Цётка – грамадская дзеячка. А яшчэ... Цётка-жанчына, звычайная жанчына... Тая паэтэса і жанчына, якая знайшла сваіх паслядоўніц у наступных дзесяцігоддзях.

Алаіза рана пакінула зямную сцежку быцця. І ці не таму, што ў сям'і Алаіза найбольш атрымлівала спагадлівага разумення з боку бацькі і братоў (жаночая частка сям'і Пашкевічаў была больш польскае арыентацыі), яе сёстры – жанчыны ўсяе Беларусі.

*Ой, сястронкі, ой, вясковы,*
*Ой вы, кветкі прызавяты!*
*Вашы твары, як васковы,*
*Вашы шчокі слязьмі змяты...*

Гэтымі радкамі прамаўляе само наканаванне, якое роўна сто гадоў таму ўсялілася ў творчую энергетыку Цёткі, нараджаючы дзівосныя вобразы паэзіі і прозы. Наканаванне касмалагічнага маштабу. Як празарэнне.

Гэта ўжо не проста метафара, якая можа быць выпадковай, не проста вобраз – адлюстраванне канкрэтнага моманту... Гэта яркае сведчанне якраз таго таленту, які даецца чалавеку не з гульні цёмна-д'ябальскай сілы, але з волі Боскай. У тую хвіліну, калі Цётка пісала пра сваіх вясковых каляжанак, упэўненая, да плячэй, да скроняў, да яе ўнутранага сардэчнага зроку дакраналіся бязважкія, але моцныя вечнай сілай крылы яе Анёла.

*Валянціна КОЎТУН*

*(Заканчэнне будзе)*

*Нашы ў свеце*

# Слова — бязмежнае, рэха — гучальнае

Шмат нашых суайчыннікаў працавала і працуе ў іншых краінах. Багата сярод іх пісьменнікаў. Найбольш мы ведаем пра беларускіх творцаў Польшчы, ЗША... Зборнік "Крывіцкія руны" адкрывае шырокаму чытачу цэлы пласт беларускіх літаратараў суседняй Латвіі. Зборнік выйшаў напрыканцы мінулага года ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор", уклаў яго пісьменнік і грамадскі дзеяч, старшыня таварыства "Беларусь – Латвія" Сяргей Панізьнік. Пад адной вокладкай сабраная невялікая частка вялікай спадчыны нашых суайчыннікаў (прычым, некаторыя з іх зусім не эмігранты, а ўраджэнцы Латгаліі, беларуска-латышскага памежжа, дзе перамяшаліся і песні, і гаворкі, і традыцыі, і народы). Апроч твораў, у кнізе шмат фотаздымкаў, звязаных з жыццём беларусаў Латвіі, у афармленні вокладкі скарыстана выява медаля працы мастака Яніса Струпуліса, які цэлы цыкл прысвяціў нашай гісторыі і славутым асобам.

У вялікай прадмове укладальнік зборніка грунтоўна і паслядоўна распавядае пра ўзаеміны двух народаў, іх даўнія кантакты ад часоў старажытных. Як бачым, на зямлі Латвіі нашыя суайчыннікі не толькі шукалі працу, грошы ды хлеб, але і стваралі творы мастацтва, вартыя, каб пра іх ведалі, каб іх чыталі.

Нядаўна ў сталічным Доме дружбы прайшла вечарына прадстаўлення "Крывіцкіх рунаў" (альбо, як назвалі яе арганізатары, – адкрыцця кнігі). Апроч сяброў таварыства, прыйшлі літаратары, школьнікі, навучэнцы ВНУ... Завітаў і выступіў на сустрэчы Эганс Нэйманіс, Часовы Паверанны ў справах Латвійскай Рэспублікі. Сваімі ўражаннямі ад кнігі падзяліўся паэт і перакладчык Андрэй Гуцаў, выпускнік факультэта латышскай філалогіі Латвійскага універсітэта. Невялічкая частка ягонай працы надрукавана ў зборніку.

Добрым настраёвым дадаткам сталі вершы беларусаў Латвіі, песні суседзяў у выкананні вучняў СШ № 110, якімі кіруе настаўніца Галіна Аляксандраўна Лашкевіч. Дзеці вывучаюць латышскую мову, знаёмяцца з культурай і традыцыямі прыбалтыйскага народа.

"У анталогію твораў беларускіх пісьменнікаў Латвіі, – зазначае С. Панізьнік, – увайшлі руны з сэрцаў нашых суайчыннікаў. Імёны творцаў не знікаюць. Рукапісы не гараць. Напісанае – застаецца нашчадкам. Для духоўнага спажытку. Для натхнення маладой Беларусі, бо Слова яе – бязмежнае, рэха яго – гучальнае."

***Уладзімір ПУЧЫНСКІ***

# Слова і чын

## *Перагортваючы старонкі «Крывіцкіх рунаў»*

***Уявіце сабе: цягнік перасякае латвійскую мяжу – і адбываецца невідавочны цуд: гэткі ж самы дуб, які пад Верхнядзвінскам называўся дубам, разгалісты і таямнічы, быццам руна, пад Індраю ўжо завецца ozols. Што ў ім такога асаблівага і незвычайнага, калі вядома, што імёны выяўляюць сутнасць рэчаў? І што, магчыма, здарыцца, калі разгалісты і таямнічы ozols назваць дубам?***

**Я ведаю, што дрэвы, а ня мы**
**Жывуць свабодна і глядзяць у неба.**
**Яны – вялікія.**

***В. Вальтар***

***Адчуць і дакрануцца да падобнага невідавочнага пераўтварэння (бы ўлезці ў скуру-кару дуба), бо цуд перадусім здараецца ў свядомасці і самасвядомасці, спазнаючы яго як адмысловую дыфузію культур, нібыта прапануе зборнік твораў – і арыгінальных, і перакладных – тых беларускіх пісьменнікаў і дзеячаў, чый лёс звязаны з Латвіяй, – "Крывіцкія руны".***

Мастакі слова заўсёды ведаюць цану называння – прамоўленае слова найперш адбіваецца на тым, хто яго прамаўляе, а слова роднае – на самасвядомасці нацыянальнай. Большасць прадстаўленых у кнізе аўтараў, 15 з 21 (Эдвард Вайвадзіш, Вера Вайцюлевіч, Віктар Вальтар, Кастусь Езавітаў, Эмілія Казак-Казакевіч, Іван і Людміла Краскоўскія, Вацлаў Ластоўскі, Паўліна Мядзёлка, Уладзімір Пігулеўскі, Мікола Панькоў, Пятро Сакол, Вольга і Сяргей Сахаравы, Мікола Талерка) і творчасцю, і ўласным жыццяпісам рэпрэзентуе беларускі нацыянальна-асветніцкі рух першай паловы XX стагоддзя такім, якім ён складваўся ў суседняй балтыйскай краіне. Пісьменнікі ідуць поруч з нацыянальным адраджэннем і дзяржаўным будаўніцтвам самой Латвіі: ствараліся беларускія школы, адкрываліся гімназіі, выдаваліся газеты, часопісы і кнігі, ладзіліся тэатральныя пастаноўкі. Прадстаўляць інтарэсы беларускай меншасці ў Сейме ўзяўся сам Яніс Райніс (яго маці Дарта Плыекшанэ была беларускай). Пра ўсё гэта яскрава сведчаць старонкі "Крывіцкіх рунаў".

"За нашу і вашу свабоду!" – заклік яшчэ з часоў паўстання Каліноўскага. І ў гэтай сувязі цікавай падаецца заўвага К. Езавітава, выказаная ім ў 1933 годзе ў прадмове да кнігі Андрэя Упіта "Фракесу Кілон": "Карыстаючыся прыгодай, хочацца нам прапанаваць на абгаварываньне беларускага грамадзтва і старэйшых дзеячоў беларускага адраджэння адну гіпотэзу. Нам здаецца, што адраджэнчы рух латышоў, як гістарычна больш раньні, чым рух беларускі ды нацыянальна-сацыяльная сьвядомасьць латыскае інтэлігенцыі, як больш выразная і моцная, адыгралі значную ролю і зрабілі ў свой час вялікія ўплывы на ўзмацаваньне нацыянальна-сацыяльнае сьвядомасьці некаторых беларускіх адраджэнцаў, згуртаваных каля штомесячніка "Наша ніва". Доказаў гэтага далёка шукаць ня прыйдзецца. Мы ведаем, што браты Іван і Антон Луцкевічы вучыліся ў Лібаўскай гімназіі, дзе даволі ярка адчуваліся павевы латыскіх нацыянальна-адраджэнчых ідэй, якія, напэўна, змусілі маладых гімназістаў лішні раз падумаць аб лёсе свайго народу беларускага. У Рызе на політэхніцы вучыўся Мікола Вяршынін, сучасны беларускі дзеяч у Празе. Таксама ў Рызе ж , у перыяд з 1906 па 1910 год, жылі значны час гэткія нашы дзеячы і пісьменнікі, як Цішка Гартны, Вацлаў Ластоўскі і Эдварды Будзько, якія таксама мелі магчымасць параўнаць ступень сьвядомасьці латышоў і беларусаў ды зрабіць з гэтага для сябе і сваёй працы пэўныя практычныя вывады. У Мітаўскай гімназіі выхоўваўся наш нябошчык-поэта Сяргей Палуян, які вельмі сябраваў з сынам вядомага латыскага дзеяча і выдаўца газэты "Jaunakas Zinas" Бэньямінам, дык трэба думаць, што і С. Палуян могназіраць латыскі адраджэнчы рух і запальвацца прыкладамі яго, каб перанясьці іх і ў рух беларускі".

На гэтай гіпотэзе, у канчатковым выніку прапанаваўшы "на абгаварываньне беларускага (і латыскага) грамадства" іншае дапушчэнне, і хацелася б спыніцца больш падрабязна, бо паралелі і кантрасты ўзнікаюць проста адметныя. Не адмаўляючы на карані верагоднага ўплыву адраджэнчага руху латышоў на "нашаніўцаў", мусім паставіць пад сумнеў гэты рух як гістарычна больш ранні.

Час Першай Атмады (Абуджэння) ў Латвіі, звязаны з імёнамі такіх асоб, як Крыш'янс Валдэмарс, Юрыс Алунанс, Крыш'янс Баранс і іншых, хто гуртаваўся вакол першай ў поўным сэнсе латышскай нацыянальнай газеты "Peterburgas Avires" ("Пецярбургская газета") – выдання, якое адыграла такую ж ролю, як на паўстагоддзя пазней "Наша ніва" ў Беларусі, – час руху "маладых латышоў" – 1860-я гады; той самы час, калі адбываецца паўстанне Каліноўскага, і беларусы змагаюцца за сваю незалежнасць не на словах, а на справе – збройным чынам. Рэакцыя на такі чын была проста жахлівай: паўстанне ўтоплена ў крыві, само слова "Беларусь" забаронена ва ўжыванні. І нават друкаванне кніг лацінкай у пяці губернях – Віленскай, Ковенскай, Гарадзенскай, Магілёўскай і Віцебскай, у якую тады ўваходзілі асобныя латгальскія паветы, што цяпер знаходзяцца ў складзе Латвіі, – на сорак гадоў, з 1864 па 1904, сталася немагчымым. Працэс беларускага нацыянальнага адраджэння пайшоў стоена, або, як кажуць, латэнтна (а можа, як заўважыць хто-ніхто, яго ўжо і зусім тады не было?). Наадварот: чынам "маладых латышоў" і іх пераемнікаў ад самага пачатку стала слова, і адраджэнне адбывалася бяскроўна, а таму і бесперапынна-відавочна. Юрыс Алунанс падаецца ў драматургію і засноўвае нацыянальны тэатр, Крыш'янс Баранс, "бацька дайнаў", пачынае грунтоўную працу па збіранні народных песень (яго збор у выніку налічвае 8 таўшчэзных кніг), даючы пачатак фальклarystыцы, Андрэй Пумпурс у 1888 годзе выдае складзены ім нацыянальны эпас "Лачплесіс", браты Каўдзытэ пішуць першы латышскі раман "Каморніцкія часы", ствараецца Рыжскае латышскае таварыства, у 1890-х гадах узнікае літаратурна-грамадскі рух "Новай плыні", які вызнае сацыял-дэмакратычныя ідэі і ў якім бярэ ўдзел малады Я. Райніс. На пачатак XX стагоддзя імёнаў ужо не адзін дзесятак і наробак у выхаванні латышскай нацыянальнай самасвядомасці вельмі багаты. Але. Нашае дапушчэнне-гіпотэза напрошваецца сама па сабе і, па сутнасці, ляжыць на паверхні: ці не рэха паўстанцкіх падзей 1861–1864 гадоў у Беларусі, Літве і Польшчы натхніла Крыш'янса Валдэмарса яшчэ да заснавання "Peterburgas Avires" на яго першы чын, выяўлены ў слове, які меў фенаменальны розгалас і з чаго, як сведчыць гісторыя, і пачалася Атмада? – Вучачыся ў Тартускім універсітэце, К. Валдэмарс на дзвярах пакоя, у якім жыў, павесіў таблічку не проста са сваім імем, як гэта рабілі і многія іншыя, а яшчэ і дадаў самаазначэнне: "латыш"...

Гэтак ніколі не гасне каганец ідэі нацыянальнага адраджэння – агульнай для розных народаў. Гэтак адна самасвядомасць уплывае на іншую, паглыбляючы і ўмацоўваючы яе.

"У жылах сучасных рыжан, – пісаў у 1925 годзе В. Ластоўскі, – многа плыве крыві крывічанскай, і гэта апошняе адна з прычын таго, што крывічы (беларусы) заўсёды так сімпатызуюць з рыжанамі.

Вайна перарвала прыток крывічанскага (беларускага) элементу ў Рыгу. Зпаміж тых, хто тут асталіся з перадваенных часоў, толькі соты чалавек, нават зпаміж прыбыўшых пасьля 1900-х гадоў, памятае, што ён мае, а прынамсі меў сваю асобную мову, якая, зрэшты, цяпер ніякага практычнага для яго значэння не мае, ні ў грамадскім жыцьці, ні ў дзяржаўным, ні ў культурным, ні ў рэлігійным. Уменьне латвійскай мовы і прыналежнасьць да латвійскай нацыі дае грамадзяніну некаторыя прывілеі, а прыналежаньне да беларускай народнасьці не дае нічога. Аднак недзе ў таемных тайніках душ гэтых, пераважна самых бедных грамадзян Рыгі, цепліцца прamеньне любові да свайго роднага. Не на рэальным інтарэсе, а на гэтым неразгаданым унутраным пачуцьці будуецца ўся адраджэнчая сягоньняшняя работа ў Рызе".

Думаецца, што калі разгалісты і таямнічы беларускі ozols назваць дубам, дуб загаворыць. Загаворыць тым асаблівым павевам свабоды і зразумеласці, які, нібы неразгаданае ўнутранае пачуццё, існуе заўсёды.

Разам з уступным арыткулам паэта і перакладчыка Сяргея Панізьніка, дзякуючы руплівай працы якога і стваралася кніга – зборнік твораў беларускіх пісьменнікаў Латвіі, "Крывіцкія руны" кожнай старонкай і нават кожным словам узнаўляюць пульс гэтага жывога пачуцця ажно праз цэлыя стагоддзі – яшчэ з "дакірылічных" часоў, калі, па сведчанні археолагаў, крывічы пісалі рунамі. А руны – гэта не толькі знакі для занатоўкі слова, яны мелі і магічную моц. Руны, такім чынам, – гэта чын.

***Андрэй ТОДАР***

---

Кастусь ЕЗАВІТАЎ



### *Даўгая-Даўгава*

*Кінь менаваць мяне Дзвіной,*
*Бо не Дзвіна я, а – Даўгая.*
*То крыжака задума злая –*
*Раку Даўгую зваць Дзвіной.*
*Спытай у латыша, –*
*Назовы старыя ён добра памятае!*
*Мяне Даўгава называе,*
*Цябе ж заве крывіч ці крыўс.*

***8 лютага 1925 г., Рыжская цэнтральная турма***

---

Пятро САКОЛ

### *Люцынскі замак*

*На крутым берагу адзінокі*
*Стары замак даўно ўжо стаіць.*
*Ён над возерам грозна падняўся*
*І навокал так сумна глядзіць.*
*Вараннё на ім гнёзды павіла,*
*Між каменняў трава ўжо расце...*
*Чорным мохам пакрыліся сцены,*
*Груда цэглаў у цёмным куце.*
*У ягоных нагах ляжыць горад,*
*Як у бацькі сынок на каленях.*
*Вокны горада ззяюць агнём*
*На вячэрняга сонца праменнях.*



*Калі ж выгляне месяц з-за хмар,*
*Калі горад патроху засне,*
*Стары замак, як волат, стаіць,*
*Зачараваны ў жудасным сьне.*

***11 кастрычніка 1922 г., Люцын***

---

***Беларуская уніяцкая царква Св. Тройцы ў Рызе (XVIII ст.)***



*Малюнак І. ВРОЦЭ*





## Сакавік

12 – **Харузін Аляксей Мікалаевіч** (1864 – 1933), расійскі этнограф, археолаг і антраполаг, які вывучаў беларускае народнае жыллё пераважна Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губерняў – 140 гадоў з дня нараджэння.

13 – **Кавалюк Аўгінія** (сапр. Сідаровіч Яўгенія Трафімаўна; 13.03.1934 ці 08.04.1935, Гродзен. р-н), паэтэса, перакладчыца – 70 гадоў з дня нараджэння.

15 – **Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь**, асноўны закон дзяржавы, першая канстытуцыя незалежнай Беларусі (1994) – 10 гадоў з часу прыняцця.

16 – **Южык Павел Фаміч** (1874, Смаргон. р-н – 1944), мастак, педагог – 130 гадоў з дня нараджэння.

19 – **Садзін Уладзімір Сцяпанавіч** (1924), мастак, заслужаны работнік культуры Беларусі – 80 гадоў з дня нараджэння.

20 – **Васілеўская Аляксандра Віталеўна** (1894 – 1959), мастацтвазнавец, гісторык беларускага і расійскага мастацтва – 110 гадоў з дня нараджэння.

27 – **Ляшэнка Ларыса Дзмітрыеўна** (1914, Вільня), дзеяч самадзейнага мастацтва, балетмайстар, педагог, заслужаны дзеяч культуры Беларусі – 90 гадоў з дня нараджэння.

28 – **Цвірка Кастусь** (Канстанцін Аляксеевіч; 1934, Старадар. р-н), паэт – 70 гадоў з дня нараджэння.

29 – **Зінчук Марк Васілевіч** (1904 – 1945), музыказнавец – 100 гадоў з дня нараджэння.

## Новае пра пагібель Пампеі

Многія з нас сёе-тое ведаюць пра трагічную пагібель старажытнай Пампеі з карціны рускага мастака К. Брулова і каментарыяў да яе, некаторыя – па апублікаваных версіях, выніках раскопак XVIII стагоддзя. Пры раскопках археолагі адшукалі дамы з фрэскамі, розныя рэчы і каштоўнасці, адбіткі ахвяраў вывяржэння вулкана: у попеле і лаве захаваліся адпаведныя пустоты. Такім чынам, была лепш уяўлена сапраўдная карціна той трагедыі. Вучоныя з Неапалітанскага універсітэта і Пампейскага археалагічнага цэнтра прадоўжылі раскопкі і ў прыгарадзе Пампеі знайшлі некранутую раней алею і па ёй шмат чаго ўдакладнілі – у прыватнасці тое, што для тых, хто не паспеў уцячы з горада і патануў у жахлівай лаве напачатку, было дзве бяды.

Першая – паток лавы, ад якой спрабавалі схавацца за сцены дамоў, другая – попел, які пачаў засыпаць дамы, ламаць дахі, у выніку чаго людзі ў поўнай свядомасці гінулі ад атручанага паветра. Параўнаўшы вынікі ўсіх раскопак, вучоныя выказалі думку, што ад лавы, абрынутых ад яе пабудоў загінула каля 40 працэнтаў насельнікаў Пампеі. Тыя, хто пазбег пякельнага агню і смерці ад руін, задыхнуліся пад слоем попелу ў дамах ці па-за імі.

### Што, дзе, калі?

**У 1845 годзе** шатландскі інжынер Роберт Томпсан патэнтуе пнеўматычныя шыны.

**У 1863 годзе** Элансан Крэйн патэнтуе вогнетушыцель.

**У 1884 годзе** Левант Рычардсон з Чыкага патэнтуе ролікавыя канькі.

**575 кіламетраў** мае ўчастак газавай трубы Ямал – Еўропа, якая пракладзена па беларускай зямлі.

## Альяс цвіце



Калі не ў кожнай беларускай хаце, кватэры, то вельмі ў многіх на падаконніках стаяць розныя гаршчочкі, а сярод іх розныя пакаёвыя расліны, што цвітуць і не. Сярод іх ганаровае месца займае альяс (алое, стагоднік, сталетнік) за сваю карысначсць: учыніў сабе ранку – памаж яе разрэзанай долькай альясу, хутка пачне зажываць; запаршыла ў горле, пагражае ангіна – выпі лыжачку соку з загадзя прыгатаваных долек альясу з мёдам, запі гарбатай, горш не стане.

Але каб альяс зацвіў! Такое далёка не кожны з нас бачыў. Ды, як чуваць, бываюць і такія дзівосы. Нядаўна яны здзівілі вёску Чырвоны Партызан Добрушскага раёна, дзе ў доме бібліятэкара Любові Шуткевіч страгаваты альяс упрыгожыўся пышнай кветкаю. І да ўсяго не такі ўжо вялікі – значыць, зусім не стогадовы.

Згодна з энцыклапедыяй, у свеце больш за 200 відаў розных альясаў, але, мабыць, наш добрушскі своеасаблівы, шчаслівы сам і са шчасцем гаспадароў!

*Дзівосы*

## І ў нас гэта ёсць

Помніце, адзін з герояў выдатнага рускага пісьменніка А. Чэхава дапытваўся ў свайго знаёмца, што ёсць у Грэцыі. А той, здаецца, грэк, адказваў, што ў Грэцыі ўсё ёсць.

Калі б яшчэ нядаўна ў кожнага з нас запыталі, ці ёсць у нас такія дзівосы, як страусы, дык, канечне ж, мы не сумняваліся б: "Што вы?! Страусы – у гарачай Афрыцы. Вялікія, з цяля добрае, а яйкі..."

Не, вось цяпер такі наш адказ быў бы недакладны: і мы маем страусаў. Лепш сказаць, іх мае кобрынскі фермер Алесь Антоненка.

Раней ён "штурмаваў" неба – не толькі нашай краіны, але і афганскае. Калі прызямліўся, і ўжо на пастаянна, то прысвяціў сябе незвычайнай працы, пачаў гадаваць фазанаў, перапёлак, дзікіх качак і іх... страусаў – гэта значыць рэдкіх і экзатычных птушак, спалучаючы прыемнае з карысным – экзатычнасць і фермерскі інтарэс. Як і бывае, спачатку з яго дзіватцваў сёй-той пасміхаўся, а пасля ўхмылкі зніклі самі па сабе: яго гадаванцамі зацікавіліся не толькі ў Брэсцкай вобласці, у Беларусі, але і ў іншых краінах. Скажам, нарасхоп перапёлчыны вельмі вітамінныя яйкі, дзікія качкі – найперш у паляўнічых, якія выкарыстоўваюць іх як падсадных на паляванні.

Што да страусаў, то фермер Антоненка запазычыў іх у суседзяў-палякаў. Там і ў Германіі, дзе страусіная справа не толькі добра наладжана, але і добра ахавана ад розных птушыных "грыпаў", купляе яйкі, кладзе іх у спецыяльныя інкубатары, дзе і з'яўляюцца птушаняткі, якія за год маюць вагу... 140 кілаграмаў! Нічога сабе курка, праўда?! Добры вепручок! Ды калі ўлічыць, што мяса страуса не проста экзатычнае, але і дарагое, яно каштуе добрую капейчыну – 20–25 даляраў за кіло, ды яшчэ можна выгадна прадаць пер'е, скуру (з яе шыюць сукенкі, якія каштуюць... такія грошы, якія не заробіш на звычайную зарплату). І гэта ўсё пры тым, што страус ахвотна есць нашу беларускую траву. Адным словам, страусамі зацікавіліся і іншыя фермеры, нават гаспадаркі, разлічваючы на ладныя прыбыткі. Праўда, каб іх мець, патрэбна будзе і шукаць кашальковых пакупнікоў – найперш у суседняй Расіі, дзе заўсёды былі і ёсць багацеі, схільныя да ўсякай экзотыкі, і дзеля яе не шкадуюць сродкаў.

Няхай жыве беларуская птушка – страус!

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Працяг. Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**Архітэктура** *(працяг)*.

Ужо ў IX і X стагоддзі на нашай зямлі пачалі ўзнікаць гарады, якія станавіліся цэнтрам адміністрацыйна-палітычнага, эканамічнага, ваеннага і культурнага жыцця (Полацк, Віцебск, Тураў і інш.). Ваенна-абарончы характар гарадоў меў асаблівасць – цесна спалучаць прыродныя перашкоды (высокія берагі рэк, абрывы) і штучныя збудаванні. Дзядзінец і вакольны горад абкружалі новым земляным валам, а на ім рабілі ўмацаванні з бярвення. Гэта спрыяла таму, што вораг не мог напасці раптоўна. У X–XIII стагоддзях, калі пачасціліся зацяжныя аблогі, жыццё паклікала ўдасканальваць формы, змест абарончага дойлідства. Узнікаюць магутныя драўляна-земляныя збудаванні з унутрывалавымі гліняна-каменнымі і драўлянымі канструкцыямі (Полацк, Мінск, Давыд-Гарадок). Вастраколы, зрубныя сцены-гародні ўмацоўвалі драўлянымі і мураванымі вежамі (Гродна). У XIII стагоддзі вялікае значэнне набылі шмат'ярусныя прамавугольныя ці круглыя ў плане мураваныя вежы-"стаўпы" (Камянецкая вежа). У XI–XII стагоддзях створаны асновы горадабудаўніцтва, склаліся радыяльна-кальцавая і радыяльна-веерная планіроўкі вуліц. Архітэктура X–XIII стагоддзяў на Беларусі, маючы нямала падобнага з суседзямі, тым не менш набыла своеасаблівыя рысы, у XII стагоддзі сфарміраваліся мясцовыя архітэктурныя школы (Полацкая і Гродзенская школы дойлідства). Сярод выдатных збудаванняў таго часу – Полацкі Сафійскі сабор і Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква, Віцебская Дабравешчанская царква, Гродзенская Барысаглебская царква і інш.



Віцебская Дабравешчанская царква (здымак пач. XX ст.)



Гродзенскі Стары замак (выгляд у XIV–XVI стст., рэканструкцыя)



Ратуша ў Чачэрску

У XIV–XVI стагоддзях больш выразна пачынае фарміравацца беларуская нацыянальная культура. У сувязі са станаўленнем Вялікага княства Літоўскага і ўзнікненнем цеснейшых сувязей з Еўропай, акрамя ранейшых стасункаў з усходнеславянскім мастацтвам, яны пашыраюцца і з заходнееўрапейскім, набіраюць моц такія мастацкія накірункі, як раманскі стыль, готыка, рэнесанс (Адраджэнне).

У манументальнай архітэктуры развіваецца абарончы характар збудаванняў (дзесяткі крэпасцей і замкаў, абарончыя ўмацаванні адвольнай формы вакол пасадаў у Полацку, Віцебску, Магілёве і інш.). Сцены і вежы былі пераважна драўляныя. Пры ўзвядзенні будынкаў з валуноў і буйнапамернай цэглы ўжывалі трохслаёвую муроўку – 2 цагляныя сцяны, а паміж імі насып дробных камянёў і бітай цэглы, заліты вапнавым растворам (Навагрудак, Ліда, Крэва).

У XV–XVI стагоддзях большасць беларускіх гарадоў фарміравалася з двух цэнтраў: замак уладальніка і гандлёвая плошча з крамамі; у гарадах, што атрымлівалі магдэбургскае права (тып самакіравання), на плошчы ставілася ратуша. З развіццём рамяства і гандлю пашыраліся пасады, ішло іх упарадкаванне, брукаваліся вуліцы. Па краях плошчы і на прылеглых вуліцах ставіліся дамы рамеснікаў і гандляроў, пры будаўніцтве ўжывалася тэхніка "пруская муру". У той перыяд пабольшала прыватнаўласніцкіх феадальных замкаў рознай формы, але таксама са спажываннем прыродных асаблівасцей – натуральных ці штучных узвышшаў, сістэм абваднення (Геранёнскі замак, Навагрудскі замак). Часта замак спалучаўся з прыбудаваным да сцяны невялікім палацам і замкавым храмам.

У 2-й палове XVI стагоддзя замкавыя палацы пачынаюць пышнець як рэзідэнцыі, у іх становіцца больш памяшканняў, рэнесансавага дэкору (Гродзенскі Стары замак, Мірскі замак). Пад уплывам фартыфікацыйнага дойлідства Італіі і Нідэрландаў пачало пашырацца будаўніцтва ўмацаванняў бастыённай сістэмы (Заслаўскі замак, Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс). Абарончыя рысы мелі таксама храмы XV–XVI стагоддзяў. Цэрквы, касцёлы, кальвінісцкія зборы часам мелі характар храмаў-крэпасцей.

*(Працяг артыкула будзе)*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Першы нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас:
220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26.
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 18. 03. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач» 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7.
Заказ 492.
Тыраж 1050.